Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 14 (27). Вільня, Субота, 20-га лютага 1926 г. Год II.

## Адзіная ідэалёгія.

Калі выйшаў у сьвет першы нумар „Сялянскае Нівы“, органу паслоў Ярэміча і Рагулі, дык у першай-жа рэдакцыйнай стацьці яе была ясна высказана мэта гэтае часопісі. Іменна: закідаючы нам „аднабокасьць“, якая выяўляецца ў тым, што мы стаім на груньце аб'яднаньня сілаў усіх працоўных вёскі і места—дзеля супольнага змаганьня за сацыяльнае вызваленьне сялянства і работнікаў, —. „Сялянская Ніва“ абвяшчала, што „*будзе распрацовываць беларускую сялянскую ідэалёгію*“—ясна, іншую, чым наша, якая бачыць у сялянстве і работніках натуральных саюзьнікаў. І ў цэлым радзе заметак і стацей „Сял. Ніва“ старалася пераканаць нашых сялян аб істнаваньні нейкіх *непрымірымых* супярэчнасьцяў паміж імі і работнікамі, прыводзячы навет выметкі з камуністычных газэт, нібы то пацьвярджаючыя пагляд рэдакцыі.

Пазнаёміўшыся з першым нумарам „Сял. Нівы“, мы зьмясьцілі стацьцю пасла Тарашкевіча пад загалоўкам „Першы блін комам“, у якой выясьнялася, што ня толькі можна, але і трэба тварыць сялянскія арганізацыі, але што гэтыя арганізацыі павінны ісьці не на барацьбу з работнікамі, а на *супрацоўніцтва*—і то на груньце *адзінае ідэалёгіі.* Але за гэтае тлумачэньне паслы Ярэміч і Рагуля.. кроўна абідзеліся і навет адмовіліся адказваць нам на пададзеныя доказы неабходнасьці і для сялян і для работнікаў ісьці ў барацьбе за сваю долю разам!

Але вось паезьдзіў п. Ярэміч па Радавай Беларусі, пабачыў сёе-тое, ды мусіць пераканаўся, што так-званая дыктатура пралетарыяту для беларускага сялянства—ня страшна! А, вярнуўшыся ў Польшчу, знайшоў сярод палякоў новастворaную „сялянскую партыю“ паслоў Домбскага і Брыля, якая ў першым-жа сваім выступленьні заявіла, што ў аснову сваей дзеяльнасьці кладзе арганізацыю сялянства ў *поўнай салідарнасьці з работніцкім рухам...* І вось, у апошнім нумары „Сялянскае Нівы“ той-жа пан Ярэміч, які так цураўся нашае сялянска-работніцкае ідэалёгіі, навучаны *чужымі,* сам пачаў клікаць беларускае сялянства да салідарнасьці з работнікамі!

Праява гэтая для нас дужа прыемная. Менш прыемна толькі тое, што твораная панамі Ярэмічам і Рагуляй беларуская сялянская партыя так непаважна трактуе словы сваіх—беларускіх дзеячоў, ды павучаецца чужацкім розумам. Добра, што ў гэтым выпадку чужацкі розум аказаўся правільным у пытаньні аб сялянска-работніцкай солідарнасьці. Але наагул кіравацца гэным розумам — часта дужа небясьпечна. Бо-ж, прыкладам, адзін з тварцоў новаё польска сялянскае арганізацыі, пан Домбскі, ведамы беларусам тым, што ў Рызе на міравых перагаворах з Радавай Расеяй *рэзаў жывое цела беларускага народу на кускі* і падпісаў акт аб гэтым,—а вось пан Брыль, другі павадыр тае-ж партыі, дык у свой час у Сойме, на заяву пасла Тарашкевіча, што асадніцкая палітыка можа закончыцца „з дымам пажараў“, крыкнуў з мейсца: „*Тады мы спалім вашы беларускія вёскі*!“

Думаем аднак, што, пасьля такое эвалюцыі ў паглядах кіраўнікоў „Сялянскае Нівы“, яны ўжо бяз гневу і абурэньня выслухаюць і яшчэ адзін з нашых аргумэнтаў на карысьць адзінае сялянска-работніцкае ідэалёгіі. Гэта—якраз тая *справа зямлі*, якой, паводле „Сялянскае Нівы“, мястовыя работнікі быццам-то зусім не зацікаўлены.

Справа ў тым, што ў Беларусі, ня глядзячы на ўсе выкрыкі польскіх калянізатараў аб „бязьмежных вольных прасторах“ дзеля польскага асадніцтва, *зямлі ўжо цяпер лішне мала*, каб у патрэбнай меры надзяліць усіх сялян, хоць-бы падзялілі між імі ўсе здатныя да ўжытку землі — дворныя, казённыя і інш. Практыка Усходняй Беларусі паказала, што і там, дзе такі падзел зроблены, істнуе так-званая „*аграрная перанаселеннасьць*“, аб чым дужа цікаўную стацьцю з „Савецкае Беларусі“ перадрукавала „Сял. Ніва“. Выкрыкі аб тым, быццам там прыходзіцца сялянам-беларусам высяляцца ў прочкі затым, што часьць зямлі асталася пад „совхозамі“ (гаспадарка вядзецца арцелямі... з тых-жа сялян!), або што некалькі сот ці тысяч дзесяцін празначаны гаспадаром-жыдом, — ведама, перад пададзенымі ў гэтай стацьці цыфрамі аказваюцца дзіцячым лепятаньнем. Бо-ж ясна, што ў Беларусі—ў меру нарастаньня насяленьня—*зямельны голад*, нястача зямлі для ўсіх жадаючых яе будзе выяўляцца ўсё больш і больш рэзка з кожным годам.

Вось, значыцца, *вырашэньне сялянскага пытаньня не разьвязваецца адным толькі падзелам зямлі паміж ім*. Сялянскае пытаньне—шмат шырэйшае, чым пытаньне зямельнае. Сялянства, якое дагэтуль *выкарыстывае ў сваей гаспадарцы*—ўжо *пасьля* падзелу панскіх абшараў у Усходняй Беларусі!—толькі *на 40% сваю рабочую сілу,* заўсёды шукала, шукае і будзе шукаць выхаду з вёскі ў места — дзеля выкарыстаньня гэтага 60-працэнтнага лішку сваей творчай энэргіі. І вось тут-то і пачынаецца такое ачывістае, такое яўнае зьліцьцё інтарэсаў вёскі і працоўнага места, што дзеля нейкіх спрэчак на гэту тэму ўжо не астаецца ніякага грунту! Іменна вёска перад усім зацікаўлена ў тым, каб прамысловае жыцьцё мест чым шыбчэй разрасталася і каб разам з гэтым расла ё*мкасьць места ў адносінах да наплываючых у яго выхаджэнцаў з вёскі.*

Ці-ж аднаго гэтага не даволі, каб зразумець, як цесна зьвязуюцца сялянскае і работніцкае пытаньне? Ці-ж трэба йшчэ тлумачыць, што без „заваяваньня места“ сялянствам—без умацаваньня там сялянскіх ўплываў *шляхам зьліцьця ў адну сям'ю працоўных ад ральлі і ад фабрычнага станка* — немагчыма ўчасьце сялянства ў тварэньні ўлады і кіраваньні агульным жыцьцём краю?! .. Гэта-ж ясна само сабой!

Але, каб гэта сталася магчымым, ізноўжа паўторым: патрэбна не тварэньне нейкае асобнае, чужое і варожае да работнікаў места „*сялянскае*“ *ідэалёгіі*, а патрэбна сталае *духовае і ідэйнае аб'яднаньне ўсіх працоўных* як вёскі, так і места, патрэбна *адзіная сялянска-работніцкая ідэалёгія.* І толькі тады, калі такая адзіная ідэалёгія запануе ў вёсцы і ў месьце,—толькі тады сяляне і работнікі, хоць і з'арганізаваныя ў асобных арганізацыях, хоць і ідучы паасобку, дойдуць да *супольнае мэты ўсіх працоўных.*

## Да горадзенскага зьезду.

6-га і 7-га лютага адбыўся ў Горадні зьезд палякоў-крэсавікоў усяго Заходня-Беларускага краю. Мы ўжо далі ў папярэднім нумары агульны агляд працы гэтага зьезду. Цяпер падаем жменю найбольш цікаўных для нас падробнасьцяў, сабраўшы з цэлага раду газэт.

Вось, як цікава сфармуляваў задачы зьезду, адчыняючы яго, пас. Лашкевіч („Клюб Працы“): зьезд меў мэтай апрацаваць супольную плятформу для **ўсіх палякоў на „Крэсах“**, ды стварыць з іх прадстаўнікоў орган іх узгодненай апініі, які-б меў сілу і павагу — зьдзяйсьняць усе **польскія** „крэсавыя“ патрэбы, адначасна ўсё цясьней **зьліваючы край з Польскай дзяржавай...** („Robotnik“).

Можна толькі дзівіцца, чаму гэта „крэсавыя“ і цэнтральныя эндэкі байкатавалі зьезд: бо-ж, як бачым, чыста обстава-эндэцкі дух адразу выявіўся ў першай праграмнай прамове на зьездзе. Як і эндэкі, арганізатары зьезду, апрача палякоў, на ўсім прасторы „забранага краю“ ня бачаць нікога.

Але гэткая „ідэолёгія“ сьляпых „крэсавікоў“ набіла ўжо столькі балючых шышак на іх лабох, што ўтрымацца нятыкальна ўва ўсей сваей эндэцкай цэласьці і дурноце яна ўжо ў нашы часы ня можа. Дык і на гэтым зьезьдзе арганізацыйны цэнтр спаткалі розныя „мілыя наспадзяванкі“—з абодвух „флянгаў“:—зьлева і справа.

Характэрны даклад зрабіў ведамы „знаўца“ нашага краю былы Генарал Камісар ці генарал-губэрнатар „усходніх зямель“—п. Асмалоўскі. (Праўду кажучы, гэты пан з усіх крэсавых спраў найбольш цікавіўся—у часе свайго высокага ўрадаваньня — „крэсавым ільном“, на якім зарабіў, як казалі, вялікія грошы). Зьмест дакладу мы ўжо падавалі.

П. Асмалоўскі якраз і запрапанаваў зьезду стварыць, незалежна ад Сойму і самаўрадаў, зусім асобнае „прадстаўніцтва“ польскіх крэсавікоў і іх установаў. Ня маючы ані сілы ані магчымасьці сфальшаваць выбары ў Сойм ані зусім зьвясьці да нуля выбары ў самаўрады, паны Асмалоўскія і кумпанія хочуць згары ўжо чым больш „унешкадлівіць“ запраўднае прадстаўніцтва краю — палітычнае і гаспадарчае, якое, як ні круці, дасьць уладу ў краі ў рукі яго запраўднага дэмакрат. гаспадара беларускага сялянства.

Другі дакладчык, п. Старчэвскі, ужо значна гусьцей ахварбаваны ў „народовыя“ калёры, слушна бачыў усю і адзіную апору „польскасьці“ на „Крэсах“—выключна ў чыноўніках дый паліцыянтах. Дык клапаціўся толькі аб тым, каб уся гэтая „крэсавая машына“ чым спраўней і хутчэй працавала. А дзеля таго гэты „тожэ—аўтанаміст“ дамагаўся чым шырэйшай „аўтаноміі“, ці амаль не „незалежнасьці“ ад цэнтральных уладаў для „крэсавых“ урадоўцаў. А даводзіла гэтая крэсавая галава сваю „тэзу“ дабітнымі прыкладамі... няздарнасьці польслай бюракратыі ў Галіцыі! Дык у нас на „Крэсах“ гэтай няздарнай польскай бюракратыі трэба, паводле гэтай галавы, даць найбольш—„самастойнасьці і незалежнасьці ў яе рашэньнях“.

Найбольш забойчым для гэтага зьезду нашых „крэсавікоў“ было тое, што якраз у справах гаспадарчых, у якіх нашыя „прыраджоныя“ тут лічаць сябе найбольшымі знаўцамі і творчым элемэнтам,—ня было зроблена на зьезьдзе ніводнага дакладу. Гэтым, „крэсавікі“ найбольш даказалі сваё права тварыць „гаспадарчае прадстаўніцтва“ краю. Абодва прадбачаныя дакладчыкі ў справах фінансавых, эканамічных і зямельных: праф. Станевіч і Вэнцковіч,—папросту ня прыехалі на зьезд. Дык „на затычку“ цзіры ў праграме выпусьцілі ведамага „вадалея“ пас. Хоміньскага. Але гэты зусім няшкодны для эндэкаў пан мае такую страшэнную апінію „аўтаноміста“, ці навет—„фэдэраліста“, што, як толькі ён пачаў казаць, як заўсёды, не дта нявыразнае, дык узьняўся такі эндэцкі гармідар і абшаріцкі гвалт, што ў канцы канцоў няўдачлівы аратар, сам арганізатар зьезду і сябра яго прэзыдыуму, быў старшынёй пазбаўлены голасу і ўцёк са зьезду.

Чацьвёрты дакладчык, п. Ластоўскі („дэмакрат“ з Вільні), сцьвярдзіў у сваім дакладзе аб лясным дзеле на „Крэсах“, што пад польскай уладай (ня гледзячы на рабункову гаспадарку) лясная прамысловасьць, амаль не найважнейшая крыніца багацьця краю,—зьменшылася ў 10 разоў—у параўнаньні з перадваеннай. Вось вынікі далучэньня нашага краю да дзяржавы... без партоў!..

---

Але-ж найвялікшы скандал выклікаў на зьезьдзе крэсавых польскіх „лібэралаў“ п. Сьвеховскі, былы пястоўскі пасол у Устаноўчым Сойме, цяпер найбольш паважны і прызваіты з віленскіх „дэмакратаў“, якіх нябожчык Врублеўскі трафна ахрысьціў—„імпотэнтамі“. Калі ў сваім дакладзе аб асьветных справах на „крэсах“ гэты пан дапусьціў „нетакт“, загаварыўшы, паміж іншым, і аб беларускай народнай школе, дык тут ужо польскія крэсавікі на беларускай зямлі ня вытрымалі: пачаўся такі гвалт ды лаянкі, — што і гэты дакладчык Арганізацыйнага Бюро ня мог скончыць дакладу.

За тое запраўдны трыумф меў на зьезьдзе ведамы добра ўсім беларусам былы віленскі куратар Гонсёровскі, які, моцна падмочаны растратамі ў яго аса-

бістай канцэлярыі ў Вільні, атрымаў — павышэньне ў Беласток.

Гэты афіцыяльны кіраўнік асьветы на „крэсах“ пачаў лаяць дакладчыка Сьвеховскага за тое, што той „выдумаў“ нейкую беларускую школу, якой няма дый ніколі ў Польшчы ня будзе.

Урадавы апякун няграматнасьці ў краі бажыўся перад зьездам, што беларускай школы наагул, асабліва-ж сярэдняй, ня можа быць, бо перад усім — няма ніякіх падручнікаў беларускіх. Ведама-ж, дарма браўшы грошы ў Вільні, ён ня ведае навет аб існаваньні ў яго былым окрузе аж 5 беларускіх гімназіяў.

---

Апошнім пекным, але таксама бяссільна ўпаўшым сьцягам на зьезьдзе была прапазіцыя вызваленскага сэнатара Каліноўскага, каб зьезд высказаўся за... аўтаномію краю! Тут ужо „адсутныя“ эндэкі, асаднікі, пястоўцы і інш. пачалі папросту гнаць прамоўцу вон, і ўрэшце—выгналі ўсіх вызваленцаў са зьезду.

Спрытныя „дыпляматы“—пэпээсаўцы ня прымалі ніякага **чыннага** ўчасьця ў зьезьдзе, а паслалі туды толькі наглядчыккаў-інфарматараў.

---

У камісіях таксама было цікаўна. Перад усім старая гвардыя польскай (спад Расеі) дэмакраты, як Ледніцкі, ген. Бабяньскі і інш., пастанавілі **зусім не разглядаць дакладу п. Сьвеховскага**,—як быццам яго і ня было.

Пасьля камісія пастанавіла ў справе зямельнай, што **ў першую чаргу** зямлю на „крэсах“ павінны атрымаць—**„жаўнеры і ахвотнікі польскай арміі“**, а пасьля, калі што астанецца, дык ужо хто іншы.

# Зямля—за даляры.

Цэлы рад польскіх газэт („Роботнік“, „Незалежны Хлоп“ і інш.) падаець з усіх кутоў Беларусі (Слонімшчыны, Ваўкавышчыны і інш.) весткі аб тым, што абшарнікі, змушаныя законам аб „зямельнай рэформе“ да парцэляцыі, прадаюць зямлю выключна за даляры... Пры гэтым цэны, як і можна было прадбачыць, страшэнна падняты. За дрэнную зямлю абшарнікі трэбуюць па 100 даляраў за морг, за лепшую—да 500 даляраў за дзесяціну...

Ад інтэрэсантаў — сялян, якія звarачаюцца да Беларускага Банку ў Вільні, мы чулі, што адміністрацыі паднясьвіжскіх маёнткаў Радзівілла трэбуюць за парцэляваныя вучасткі (пэўна-ж не найлепшыя)—па 500 даляраў за дзесяціну...

Улады павінны ўмяшацца ў гэткі разбой аграрных бандытаў сярод белага дня, а перад усім спыніць незаконную прадажу за загранічную валюту.

Магутным аружжам у руках абшарнікаў, якое даў ім пястоўска-пэпээсаўскі закон, зьяўляецца вольная прадажа, вольны выбар прадаўца, на чым пабудаваны (—пэўна-ж, у інтарэсе абшарнікаў!) увесь закон... Дык, каб падсьцебануць мясцовага пакупца-селяніна, перад якім закон ставіць цэлы рад канкурэнтаў, абшарнік заўсёды пагражае, што можа чужынцу—ўрадоўцу, асадніку, ці мясцоваму кулаку—прадаць зямлю таньней. І галодны на зямлю мясцовы хлебароб сьпяшыць скарыстаць з нагоды, пераплачываючы ўдвая...

Але—ці шмат такіх, што маюць **чым** плаціць?!

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Нячуваныя тлумачэньні мін. Зьдзеховскага.

У бюджэтнай камісіі ў мін. Зьдзеховскага запыталіся пэпээсы, чаму гэта ён дазволіў цукроўнікам самавольна падвысіць цану на цукер,—пасьля таго, як урадавая камісія рашуча адкінула гэткае дамаганьні цукроўнікаў, як беспадстаўнае?

Пан міністар (эндэк і сам абшарнік) на гэта адказаў, быццам закон дае права цукроўнікам прапанаваць міністру новыя цэны, а міністар мае права толькі рэгуляваць іх, але быццам ня мае права не зацьвердзіць, калі абшарнікі, ня слухаючы яго, самавольна ўстановяць новую цану...

Гэта нячуваны адказ — папросту адкрыты зьдзек эндэцкага міністра над здаровым розумам, над ясным зьместам і сэнсам закону, ня кажучы ўжо аб выражанай у гэтым адказе пагардзе да слухаўшых міністэрскія тлумачэньні паслоў... Выражэньне „рэгуляваць цэны“ на ўсім сьвеце, у-ва ўсіх законадаўствах мае адзін зусім ясны і точны зьмест: аканчальна зацьвярджаць іх у або не зацьвярджаць у сувязі з патрэбамі рынку і скарбу. Дык тлумачэньні мін. Зьдзеховскага — толькі выражэньне крайняга цынізму захапіўшай уладу абшарніцка-капіталістычнай хэўры...

### Новы пэпээсавец у габінэце.

Замест „хворага“ Морачэвскага, П. П. С. дэлегавала ў габінэт Скшыньскага другога свайго павадыра п. Баліцкага.

### Клюб манархістаў у Польскім Сойме.

У кулюарах (калідорах) Сойму вельмі зацікаўлены маючым паўстаць Клюбам Манархістаў... Закладчыкам клюбу мае быць былы... вызваленец пасол Цьвяковскі, які паразумеўся быццам з некалькімі пазнанскімі, а мо' і нашымі „крэсавымі“ пасламі...—з партыі „хрысьціянскіх абшарнікаў“. Быццам п. Цьвяковскі мае надзею вылавіць з мутнай вады недабіткаў Вызваленьня яшчэ некалькі манархічных акунькоў...

Прынамся мо' весялей будзе ў загніўшым ад застою соймавым балоце...

### Ізноў—вызваляюцца з „Вызваленьня“.

З клюбу „Вызваленьне“ выступіў яшчэ адзін пасол, Адамовіч. Гэткім чынам з вызваленцаў, якіх сьпярша было больш 70, цяпер у Сойме асталося толькі 25...

Вось дык „партыя“... І гэткія „малайцы“ здолелі так масава ашукаць нашых выбаршчыкаў—сялян! Трэба-ж думаць, што—першы і апошні раз...

### Палякі—шпіёны на карысьць Нямеччыны.

Ведама, што антыпольскі рух у Верхняй Сілезіі ўсьцяж расьце, дзякуючы таму гаспадарчаму развалу, якога здолела даканаць польская ўлада ў працягу некалькіх гадоў панаваньня. Дык ня дзіва, што сярод нездаволеных так лёгка вербаваць „шпіёнаў“. — Толькі што паліцыя выкрыла вялікую арганізацыю, якая здабывала для Нямеччыны ўсялякія інфармацыі, як ваеннага, так і гаспадарчага характару... Пракуратурай арыштаваны 15 асоб. Але найцікаўней тое, што—як сьцьвярджае само польскае агенцтва, усе шпіёны — палякі... Чаго-ж немцам рызыкаваць, калі ёсьць палякі, ня горш ад іх нездаволеныя новымі гаспадарамі краю?...

### Каштоўны набытак варшаўскай „Аўтакэфаліі“.

Замест пазыкі—Амэрыка прыслала Польшчы непатрэбнага ей... праваслаўнага япіскапа!

Як ведама, два праваслаўныя япіскапы ў Амэрыцы амаль не пабіліся за галоўнае камандаваньне амэрыканскім праваслаўем. Сьпярша ўладу фуксам захапіў япіскап Адам Філіпоўскі, які папросту ашукаў як прыходжан, так і амэрыканскую ўладу. Але пасьля яго самазванства выявіў мітрапаліт Плятон, які, з дапамогай адміністрацыйнай улады, прызнаўшай сваю абмылку, выгнаў з „спрытна“ захопленых архіярэйскіх маемасьцяў Адама Філіпоўскага... Дык той, спасаваўшы ў Амэрыцы, слушна рашыў, што такіх, як ён, якраз шукаюць—у Польшчы... І проста скіраваўся ў Варшаву, дзе яму зараз-жа запрапанавалі добрае мейсца, як паведамляюць польскія газэты...

Як ведама, якраз гэткім чынам папаў у Польшчу таго-ж тыпу „царкоўны дзеяч“ нябожчык мітрап. Юры, якога выгнала ад сябе ўсё праваслаўнае грамадзянства ў Італіі, ды яго зараз-жа „падабраў“ для ўжытку ў Польшчы польскі пасол у Рыме.—Зьбіраюць па ўсім сьвеце, што „лепшага“ сярод праваслаўных архіярэяў, — ведама-ж у якіх мэтах!

## Заграніцай.

### Запярэчаньне англійскага Тэлеграфнага Агенства.

Наш патрыятычны пан „ПАТ“ падаў вестку аб тым, быццам англійскі ўрад згадзіўся на сталыя мейсцы для Гішпаніі, Бразыліі, ну і, зразумела, — для Польшчы. І вось англійскае агенства Рэйтэра афіцыяльна заяўляе, што гэта—брахня.

### Да нападу на радавых кур'ераў.

Вялікае ўзварушаньне ў Латвіі і ў ССРР выклікала вядомая крывавая драма, якая разыгралася ў кур'ерскім поезьдзе, што йшоў з ССРР у Рыгу — на латвійскай тэрыторыі.

Як мы ўжо пісалі, у адным з вагонаў ехалі два радавыя дыпляматычныя кур'еры, вязучы нейкія вельмі важныя паперы. І вось, нараніцы ў іх купэ ўварваліся двое людзей, якія і пачалі абстрэліваць іх з рэвальвэраў. Ня гледзячы на цяжкія раны, кур'еры схапіліся таксама за аружжа і палажылі на мейсцы абодвух нападаўшых. Адзін з кур'ераў тут-жа памёр, другі аказаўся цяжка раненым.

Сьледзтва выясьніла, што забітыя напасьнікі — палякі з Літвы, браты Габрыловічы, бацька якіх мае там маёнтак. Габрыловічаў—некалькі братоў. Адзін з іх служыць у польскай арміі, іншы — пад фальшывым прозьвішчам быў на радавай службе, як здаецца — з шпіёнскімі мэтамі.

Радавы ўрад заявіў латвійскаму ўраду востры пратэст проці таго, што сьледзтва вядзецца не даволі энэргічна і не даволі ўсебакова, што выклікала вельмі напружаны стан у латвійска-радавых адносінах. Выяўляецца, што напад на кур'ераў быў зусім не бандыцкі, а меў палітычны грунт і бальшавікі адкрыта вінавацяць Латвію, што яна хоча прыкрыць учасьце ў нападзе саюзьніцы яе—Польшчы...

### „Цар Кірыл I“ аб сабе, дзядзьку Мікалаю і—Расеі.

У ведамай прускай чарнасоценнай газэтцы „Пруская Крыжовая Газэта“ „цар Кірыл I“ зьмясьціў сваю „размову“—аб розных палючых справах...

Першай дый найважнейшай з іх „цар“ лічыць, зразумела — бязумоўнае прызнаньне яго перад усім усей расейскай эміграцыяй. Толькі тады ён будзе прызнаны і ў Расеі (?) і можа пачаць—рашучую барацьбу з бальшавікамі... Але для гэтага перад усім трэба... „убраць“ з дарогі так ці інакш—ягонага дзядзьку Мікалая, які толькі муціць і псуе яму, запраўднаму і адзінаму „цару“ і правадыру ўсей запраўднай Расеі, яго працу... дзеля ўратаваньня Расеі...

Але ж літэральна тое-ж самае, толькі крыху неяк граматней, кажа аб сабе, аб сваім больш дурным

# Падарожа у ССРР і у БСРР.

### Аб „Доме Ночкого оддыха“.

Позна ўвечары прыяжджаем у „Дом Ночного оддыха“. Маленькі садок з прыгожымі елечкамі, прыбранымі інеем, ветліва спатыкаюць нас. Далей чысьценькі, прытульны дамок,—места, гдзе работніца знаходзіць мэдыцынскую дапамогу і аддыхаець пры найлепшых варунках. Праўда, ня кожная можа кінуць сваю брудную, а часам сырую і не гігіенічную кватэру і скарыстаць угалком і дапамогай гэтага дому, бо назначаны ён толькі для тых, каго доктар прызнаў за цяжка хворую і якая можа працаваць на фабрыцы ці заводзе і, адначасна, лячыцца. Прыходзіць, напрыклад, такая работніца ў „Дом оддыха“, зьнімаець сваю вопратку, мыецца пад спэцыяльным душам, а там, вадзеўшы чыстую казённую вопратку, ідзець у чыстыя і сьветлыя пакоі і займаецца, чым хоча. Доктар аглядае, дае лекі і вызначае, якую даваць ежу. Для карыстаньня хворых праведзена радыо, ёсьць раяль, шмат кніг і газэт. Назаўтрае раніцай ізноў апранаецца ў сваю вопратку і ідзець на работу. Такім чынам работніца, не пакідаючы працы, а знача і заработку на сям'ю, вылечываецца ад такіх, напр., хвароб, як сухоты і інш. Установа гэта—здабытак рэвалюцыі, бо да рэвалюцыі работны аб гэтым мог толькі лятуцець.

### Шатурка.

Ужо едучы ў ССРР, нам прыходзілася чуць аб Шатурцы, як аб вялікім тэхнічным дасягненьні. Рашылі страціць цэлыя суткі, патрэбныя на паездку, каб на мейсцы азнаёміцца з гэтай будоўляй, якая паўстала ў цяжкія для Саветаў часы.

Увечары 12 студня былі ў Шатурцы. Навакол як быццам лес. Прыглядаемся, — і бачам нашым адчыняецца на небасхіле прыгожы малюнак: цэлы рад электрычных лямпачак асьвятляе некалькі вялікіх будынкаў, а далей у два рады, як жаўнеры, стаяць драўляныя дамочкі; гэта—„рабочы пасёлак“. Чуем шум машын. Мінаем адзін, два будынкі, нарэшце галоўная электрычная станцыя.

Аграмадная каменная будыніна. Унутры сапуць машыны, круцяць бесканечныя колы ды колкі і даюць жыцьцё ўсей станцыі. Статны і энэргічны інжэнер Мухін дае паясьненьне.

На мейсцы, гдзе цяпер завод, быў лес і тарфяныя балоты. Думка выкарыстаць торф, як апал на электрычнай станцыі, была паднята яшчэ ў 1912 г., але царскі ўрад ня даў на гэта грошы. Група інжэнераў у 1919 г. зьвярнулася з гэтай-жа прапазіцыяй да савецкага ўраду і атрымала патрэбную для распачацьця працы асыгноўку. Ужо ў 1923 г. на гэтым балоце, на сыстэме чатырох вазёр, злучаных паміж сабой каналамі, паўстала малая электрычная станцыя дзеля праверкі торфу (ці надаваўся ён на апал), які тоўстым слоем залягаў навакол. Спроба ўдалася. Тады прыступілі да будовы галоўнага фасаду, які й закончылі будаваць у 1925 г. Сёньня электрычная энэргія перадаецца за 102 в. ў Маскву, і прыступлена да электрыфікацыі вёсак і мястэчкаў у другі бок—на 70 в. Такім чынам, на балоце сярод лясоў паўстаў цэлы гарадок, адкуль даюць сьвятло на вялізарны прастор, ды не аднэй тысячы людзей заработак. Работнікі жывуць у спэцыяльна для іх збудаваных доміках. Маюць школу 1-ай і 2-ой ступені, народны дом, гдзе ці высьвятляецца кінэматаграфічная лента, ці чытаюць лекцыі. Ёсьць і сцэна, на якой іграюць свае аматары, або прыезныя з Масквы. Акрамя таго, пабудаваны дом для прыезных, каапэратыў, сталоўка і бальніца. Бальніца на 40 сталых ложкаў; больш лечацца прыхадзячыя, якіх за 1925 год прайшло 35.000 чал. рабочых і сялян. Заработная плата: старшы інжэнер—400 руб. у м-ц, малодшы—ад 240 р.; старшы доктар ад 240 руб., малодшы 150 р.; чарнарабочы штатны ад 45 р., падзенны 30 р.

Агледзіўшы Шатурку, а гадз. 8 ўвечары, рашылі паехаць у суседнюю электрыфікаваную вёску (з электрычным асьвятленьнем) Боціно, Егор'еўскага павету. Ужо, едучы праз лес, бачылі некалькі хутароў, ярка асьветленых электрыкай. А вось і вёска. Шырокая вуліца. Цэлыя снапы сьвятла кідаець на вуліцу праз вокна кожная халупа.

Падяжджаем да хаты. У першай палавіне гарыць яшчэ газавая лямпа, але ў другой — электрычная лямпачка. Кажуць, што хутка дадуць і па другой лямпачцы. Сям'я складаецца з старыка гадоў 60—70, сына старшага гад. 40 і моладзі. Пытаемся ў старыка, ці задаволен ён з цяперашняга парадку, ці ведае, хто гаспадаруе, ці ходзіць у царкву і т. д.

Адказы больш-менш такія: „Правит, говорят, какой-то Риков“, ці: „Да нам што: кто земельку дает, тому и спасибо“, або: „Я-то в церковь хожу, да они-то (паказывае на моладзь) не ходят“. — Сын старшы ўжо больш сьвядома адносіцца як да ўлады, так і да мяйсцовай адміністрацыі. Есьць крытыка, але ёсьць вера ў тое, што яны самі паправяць усе хібы і недарэчнасьці. — Моладзь мае зусім іншы выгляд: бадзёрая, пэўная сябе. Адна дзяўчына гадоў 14, запісаўшыся ў камсамол. Добра разьбіраецца як у грамадзкіх справах, так і ў палітыцы. У-ва-ўсім бачыць толькі добрае. — На-

## „Зьмена вехаў“ сярод расейскіх эсэраў.

У выніку бясспрэчнай ужо для ўсяго сьвету творчай працы, распачатай у ССРР, рашуча зьмянілася ўрэшце пазыцыя і найбольш заядлых процірадавых партыяў у адносінах да радавае ўлады. Найхарактэрнейшай азнакай гэтае зьмены настрояў сярод расейскай эміграцыі зьяўляюцца заявы двух найвыдатнейшых прадстаўнікоў партыі эсэраў у Празе—самога Чэрнова і Нестерава.

Чэрнов, былы старшыня разагнанага бальшавікамі ўсерасейскага Устаноўчага Збору (Учрэдзільнага Сабраньня), у сваей публічнай лекцыі ў Празе заявіў, што ў перамозе больш дэмакратычнай і больш сялянскай большасьці на апошнім зьезьдзе партыі камуністаў над „чыста пралетарскай“ апазыцыяй ён бачыць азнаку зьмены палітычнага рэжыму (парадку) ў ССРР... Чэрнов даводзіць, што гэтая перамога адчыняе шлях да дэмакратычнага ладу ў ССРР з перавагай „сацыялістычнага нахілу замест камуністычнага“... А дзеля таго павадыр расейскіх эсэраў радзіць усей дэмакратычнай расейскай эміграцыі—**„далучыцца да гэтай палітычнай эвалюцыі ў ССРР, прымаючы ўчасьце ў радавым урадзе“ разам з камуністамі...**

Старшыня сабраньня Нестеров дадаў у канцы лекцыі, што аб гэткім паразуменьні ўжо **афіцыяльныя** вядуцца перагаворы партыі эсэраў з камуністычнай партыяй...

Калі беларускія сяляне і іх павадыры „арыентуюцца“ на сваю братнюю Усходнюю палову, дык гэта—„агідна“, як аб гэтым „данасіў“ той самы Чэрнов нешта з год назад — пасьля візыты ў Польшчы да п. п. пэпэсаў... А калі паны эсэраўскія міністры зажадалі ўжо міністэрскіх партфэляў у ССРР, дык „камуністычная арыентацыя“ — зусім добрая рэч!

---

канкурэньце дый аб Расеі—і „царскі“ дзядзька Мікалай! Ведама, што і той першай перашкодай для сваей працы па „ўратаваньню Расеі“ лічыць існаваньне на сьвеце свайго недарэчнага ды нікому непатрэбнага племяша, якога „убраць з дарогі“—так ці інакш—лічыць першым заданьнем расейскага манархічнага патрыятызму...

Як у чым, але ў гэтым пункце, дык запраўды ня можна не згадзіцца—з абыдвума!

### Казьні самазванцаў.

У ССРР, як і заграніцай, зьяўляецца шмат людзей, якія выдаюць сябе за розных асобаў з б. царскага дому Раманавых. Нядаўна, як пішуць радавыя газэты, у Самарскай губ. расстраляны нейкі манах Іконьнікаў, які выдаваў сябе за царскага брата Міхаіла Аляксандравіча.

### Сэнсацыйныя рэвэляцыі нямецкай прэсы аб Мусоліні.

Нямецкая нацыялістычная прэса падае сэнсацыйныя весткі аб прапазыцыях, якія яшчэ так нядаўна рабіў Нямеччыне той самы Мусоліні, што цяпер маніцца „нясьці італьянскі сьцяг у глыб Нямецкай рэспублікі“.

Аказываецца, што Мусоліні праз свайго даверанага ген. Капэльле прапанаваў нямецкаму ўраду ў 1923 годзе ваенную помач проці Францыі ў выпадку аружнага канфлікту, які так упорна правакаваў тады з боку Нямеччыны францускі ўрад п. Пуанкарэ... Вось, дык—„Антанта“.

### Антысэміцкі тэрор у румынскіх унівэрсытэтах.

У найбліжэйшай польскай саюзьніцы Румыніі ізноў завастрыўся тэрор проці жыдоў-студэнтаў. Сьпярша іх папросту білі да паўсьмерці, а цяпер паступаюць „толеранцыйней“, бо толькі змушаюць гвалтам падпісываць заявы аб... выхадзе з унівэрсытэту.

Як ведама, у Польшчы гэтую апэрацыю „аджыдзеньня ўнівэрсытэтаў“ яшчэ больш гуманна робяць—з даручэньня міністра Грабскага сэнаты прафэсароў...

Цікава дарэчы адзначыць, што, напрыклад, апошні нумар пагромнага органу польскіх антысэмітаў „Rozwój“ пачынаецца перадавіцай „Аджыдзайма Польшчу“, якая напісана нябольш-нямеНш, як—рэктарам Люблінскага „ўнівэрсытэту“...

## ХРОНІКА.

**З літэратурнае нівы.** Малады паэт, Уладзімер Жылка (ў Празе), сабраў новы томік сваіх найнавейшых вершаў, якія зусім гатовы ўжо да друку.

**„Ліга абароны каталікоў-беларусаў“.** „Krynica“ заклікае беларусаў-каталікоў да арганізацыі „Лігі абароны каталікоў-беларусаў“, стаўляючы ёй гэткія чатыры першапачатковыя заданьні:

1) Каб пры заняцьці новым віленскім біскупам яго пасаду папская буля (прыказ аб назначэньні) была прачытана, паміж іншым, і пабеларуску.

2) Каб быў выдадзены цыркуляр, даючы права на ўжываньне беларускае мовы ў касьцёлах і нармуючы гэтае права.

3) Каб у віленскую духоўную сэмінарыю былі ўведзены выклады беларускае мовы, гісторыі Беларусі і беларускае літэратуры.

4) Каб у Вільні быў дадзены касьцёл для каталікоў-беларусаў.

Незалежна ад гэтых заданьняў на сяньняшні дзень, зьвязаных з прыездам новага біскупа ў Вільню, Ліга меціме такую шырэйшую праграму:

1) Дамагацца перад уладай касьцельнай і дзяржаўнай усіх правоў у жыцьці касьцельным для каталікоў беларусаў.

2) Рабіць захады ў Рыме ў гэтай справе і інфармаваць заграніцу аб усялякім уціску беларусаў-каталікоў у Польшчы са стараны касьцельнай ці дзяржаўнай улады.

3) Выступаць ад свайго імені перад беларускім народам, як абаронца ягоных правоў і заступніца ў-ва ўсякай крыўдзе.

4) Арганізаваць беларусаў-каталікоў дзеля змаганьня за родную мову ў касьцеле і быць расрэдніцай паміж ім і ўладамі.

5) Выдаваць і пашыраць рэлігійную літэратуру, песьні і іншае, гэтакім спосабам уводзячы і пашыраючы родную культуру ў касьцельным жыцьці.

**Ці гэта праўда?** „Gaz. Warsz. Por.“ падае вестку, быццам 15-га лютата безработныя маніліся зрабіць разрухі ў Вільні, разграміць управу, камісарыят ураду на м. Вільню і гмах ваяводзтва, ды... „выпусьціць кішкі“ прэзыдэнту места Баньковскаму, камісару Вімбору і віцэ-ваяводзе Маліноўскаму....

Паліцыя быццам даведалася аб гэтым загадзя (скуль?) і арыштавала трох палякоў—„камуністаў“, перашкодзіўшы гэтак самасуду безработных.

Мяйсцовыя газэты аб гэтым маўчаць. Ці гэта праўда?

**Назад у казармы!** Як ведама, у канцы леташняга году польскі ўрад—дзеля экономіі — звольніў у одпуск на неабмяжованы час частку рэкрутаў 1904 году.

Як даведалася „Rzeczpospolita“, цэнтральная вайсковая ўлада пастанавіла цяпер часьць зволненых рэкрутаў паклікаць ізноў на службу.

Цікава выясьніць, на чым абаперта гэтая дзіўная пастанова? Скарб, як быў, так і ёсьць пусты,—а людзі, якія, вярнуўшыся да хаты, так-як здалелі ўжо ўстроіцца, павінны ізноў усё кідаць, каб цераз колькі месяцаў шукаць працы нанова...

**„Далейшая“ адбудова Усходніх Крэсаў.** Па тэлефону пана Обста з Варшавы паведамляюць, што „міністар ральніцтва ў паразуменьні з міністрам спраў заграінчных (?) паднялі пачын у напрамку „далейшай“ адбудовы і гаспадарчага ўрэгуляваньня „Усходніх Крэсаў“. Вядуць перагаворы з міністрам Публічных работаў“.

„Далейшай“ адбудовы. А калі-ж гэта пачалася гэтая „адбудова“, мы, жыхары „крэсаў“, дык і ня ведаем! А вось гэтая абмылка друку—адносна міністра заграінчных спраў (заместа ўнутраных), дык вельмі сымвалічна.

Ці не завяліся навет ужо і ў друкарні самога п. Обста—„дывэрсанты“?!

**Шляхам Гурчына, Недзялкоўскага і іншых.** Мясцовая прэса падала новую гісторыю аб няспыняючайся крадзежы казённых грошаў на „Крэсах“, як і, зрэшта, усюды ў „адраджонай“.

Пан сэкрэтар гміны Кемялішкі, Гаевскі, „здэфраўдаваў“ (бо-ж, ведама, аб польскім урадоўцу недалікатна сказаць папросту: украў!)—4.696 зл., якія спагнаў за падаткі, забіраючы апошняе дабро ў мясцовых сялян.

Пакраўшы грошы, п. Гаевскі ўжо быў на латвійскай граніцы, калі раптам яго спаймалі. Але з усіх тысячаў пры ім асталося толькі 175 злотых.

**Ваенны суд над мардабойцамі ў рэдакцыі „Dz. Wil.** Гэтымі днямі адбыўся суд над віленскімі афіцэрамі-пілсудчыкамі, якія, уварваўшыся ў рэдакцыю „Dz. Wil.“, пабілі пану Обсту далікатна кажучы, „аблічча“—за крыўдны для асобы п. Пілсудскага артыкул, напісаны „пахнючым“ пяром пабітага.

На судзе найлепшым абаронцам гарачых не паразуму пілсудчыкаў быў... сам пабіты пан Обст, які сам разам з усімі сваімі сьведкамі даводзіў, што яго зусім ані, перапрашаем, па мордзе, ані дзе інш паны афіцэры ня білі... — толькі так — неяк „патурбавалі“. Дык афіцэрскі суд аднаго з афіцэраў зусім апраўдаў, бо ён навет не „турбаваў“ п. Обста, а другога афіцэра-мардабойцу засудзіў—на страшэнную кару: каб ён у працягу 7 дзён не хадзіў на службу, але пасядзеў сабе дома. Відаць, дзеля таго, каб адпачыў крыху пасьля „працы“ ў рэдакцыі п. Обста.

**Афіцыяльны курс грошы на 19 лютага.** Даляр — 7 зл. 60 гр. Залаты рубель — 3 зл. 89 грошы

**Цана збожжа 18 лютага:** жыта 23,50—25 зл. за 100 к. (6 пуд. 4 ф.), пшаніца 33,50—35,50 зл., авёс 28—30 зл., ячмень браварны 27—30 зл, на панцак 22—25 зл., атрубы жытнія 18—19, пшаніч-

## Дзе лепш, дзе горш.

**Нямецкі** міністар фінансаў заявіў у бюджэтнай камісіі, што ў сваім новым бюджэце ён прадбачыць **зьмяншэньне падаткаў** наагул на суму **550 мільёнаў марак.**

**Амэрыканскі** Сэнат, разглядзіўшы толькі-што праект новага бюджэту, агульную суму падаткаў, зьменшаную ўрадам на 300 мільёнаў даляраў, **зьменшыў яшчэ больш:—аж да 456 мільёнаў даляраў.**

**Англійскі** Канцлер скарбу (міністар фінансаў) толькі-што заявіў, што мае магчымасьць **зьменшыць падатковы цяжар** насяленьня на суму **звыш 10 мільёнаў фунтаў** (каля 100 міл. даляраў).

Вось, як паляпшаецца жыцьцё у краёх, дзе, як-ні-як, кіруючыя вярхі маюць крыху галавы, а працоўныя масы маюць на іх пэўны ўплыў.

А вось у Польшчы падаткі **тольні растуць**,—бо кіруючым панам ўсе не хапае на „моцарствовасьць“ дый напіханьне кішанёў...

---

агул у аднэй хаце можна было бачыць аж тры пакаленьня, якія маюць розныя пагляды на жыцьцё і зусім розна падыходзяць да новага ладу.

Цікава тое, што старык, які мае 3 дзесяціны добрай зямлі і некалькі агульнай пашы і лугоў,—трымаець аж 3 каровы і 1 каня. Падатку за год плоціць 7 руб. Страхоўку плацяць па дабравольнай ацэнцы.

Пагутарыўшы гадзіны са 2 з сялянамі, мы пасьля паехалі на станцыю. Яшчэ раз кінулася нашым вачам пекната электростанцыонных будынкаў, якія, прытуліўшыся сярод лесу, здаваліся зачарованымі. Балоты, імхі, лясы ажылі пад творчай рукой чалавека і зьмяняюць воблік мяйсцовасьці на цэлыя дзесяткі вёрст.

### Кіраўнікі радавае палітыкі.

Яшчэ 11 студня езьдзілі з візытамі да народных камісараў Чычэрына (замежных спраў) і Дзяржынскага. Дзьве выдатныя велічыні ў Саюзе Радавых Рэспублік. Адзін вядзе замежную палітыку, а другі адыгрываець вялізарную ролю ў справе будаўніцтва новага ладу. Абодвы прастыя, як відаць, у адносінах да сваіх супрацоўнікаў і сымпатычныя на выгляд. Як ні стараліся нашы падарожнікі ўбачыць у іх нешта нязвычайнае, крывавае, аб чым так многа пісала буржуазная прэса,—нічога гэткага няма. Што цікаўнейшае, што камісар Дзяржынскі гавора па-польску ў Маскве з кожным з грамядзян, які зварачываўся да яго ў гэтай мове, тады як у нас навет захудалы войт, маючы ў сябе так званы „языковы ўстаў“, стараецца **не гаварыць пабеларуску.**

### На раўце.

13-га студня вечарам т-ва культурнай сувязі з заграніцай арганізавала спатканьне (раўт) савецкіх грамадзкіх гаспадарчых дзеячоў, эканамістаў і работнікаў мастацтва з нашай дэлегацыяй. Многа сьвятла, шуму. Музыка. На спатканьні былі прысутны: камісар замежных спраў Чычэрын, старшыня т-ва Каменева, старшыя савету народных камісараў Грузіі Эліава, заступнік ваеннага камісара Уншліхт і інш. На прывітальную прамову Каменевай, якая падкрэсьліла патрэбу культурнай сувязі ССРР з Польшчай, адказаў старшыня нашай дэлегацыі Брыль. Ад Беларускай Рэспублікі выступаў з прамовай народны камісар Асьветы прафэсар Ігнатоўскі. Узаемаадносіны сярод прысутных прастыя, без нацягненасьці. Прысутны быў таксама і пасол Польшчы ў Маскве Ксатжыньскі.

### Вастрогі Сакольніцкі і Лефортаўскі.

У апошні дзень перад ад'ездам з Масквы пабывалі ў вастрогах Сакольніцкім і Лефортаўскім. Гэтае пытаньне цікавіла кожнага з нас, бо чыталі ізноў-жа ў сваей буржуазнай прэсе многа страшнага аб гэных вастрогах. Да таго-ж ведаем, як жывуць нашы беларусы ў вастрогах Польшчы. Дык вось і хацелася пабачыць, прыраўнаваць.

Звонку вастрогі маюць выгляд такі самы, як і „нашы“. Уваходзім у сярэдзіну. Шум, стукат. Ня верыцца, што мы ў вастрозе. Як быццам у нейкай фабрыцы, ці заводзе. Усюды працуюць. Ідзем у нейкі млын, гдзе робяць крупы; праходзім цэлы рад майстроўняў: сталярня, сьлясарня і п. д. Пакоі з шаўцамі, краўцамі.

Просім паказаць самы вастрог і вастрожнікаў. Кажуць, што вось усе яны тут заняты працай, а камеры вось на другім баку. Праходзім. Усюды парадак, чыстата.

Даведываемся, што вастрожнікі працуюць 8 гадз. у суткі і там, гдзе хто хоча. Атрымліваюць за гэта плату, $^1/_3$ частка якой зараз жа ідзе на патрэбы арыштаванага, а $^2/_3$ кладуцца на яго імя ў касу. Здараецца, што пры выхадзе на волю арыштант атрымліваець з касы да 500 руб., якія сабраліся за час яго прабываньня ў вастрозе. Гэта дае магчымасьць яму зразу завясьці гаспадарку.

У вастрозе ёсьць каапэратыўная лавачка, саля для тэатра, бібліотэка. Усім гэтым кіруюць самі вязьні.

Палітычным таксама дазваляецца выбіраць род сваіх заняткаў. Адны занімаюцца фізычнай працай, другія маюць кніжкі, паперу і занімаюцца ўмысловай работай.

Бачылі некалькі палітычных і гаварылі з імі. Адзін японец-авіатор сядзіць за шпіёнства, старык-правакатар—за свае грахі яшчэ з часоў царскіх, даваенных. Тут-жа якісь Каўкаскі генарал. Пытаемся, за што засуджаны? Адказывае: „собственно говоря, без віны. Когда-то, еще до войны, мне приказали усмирить бунтовщиков, — ну, я пошел и усмирил. Судили, дали 5 лет тюрьмы. Пасьля, падумаўшы, дабавіў: „а впрочем, если-бы судил я, то тоже меньше не дал-бы“...

Атрымліваюць вязьні на дзень $1^1/_2$ ф. хлеба, 11 зал. тлустасьці і іншыя прадукты. Ежа здавальняючая, і ні адзін з вязьняў ня скардзіўся на рэжым.

Самая цікавая праява, гэта дасрочныя і часовыя одпускі. Напрыклад, у 1925 г. былі адпушчаны на палявыя работы 10.000 чалавек, з якіх к назначаннаму сроку ня зьявілася толькі каля 70 асоб. Былі выпадкі, што адпускалі на дзьветры нядзелі дамоў, і яны акуратна варочаліся к сроку. Некатарым скарачывалі срок на $^1/_3$ назначаннага судом.

Пасол **П. Мятла.**

(Далей будзе).

ныя 20—21 зл., гарох белы 26—29 зл., бульба 12—14 зл., сена 11.50—13 зл. Канюшына чырвоная насенная 55 зл. за пуд.

**Цэны рынковыя:** мука пшонная 55—90 гр. за кілё, жытняя пытляваная 44—50 гр., разовая 28—30 гр., хлеб пшонны 80—90 гр., жытні 50%—50 гр., 70%—45—47 гр., крупы ячменныя 55—85 гр., грэчка 65—90 гр., аўсяныя 1,00 зл.—1,30 гр. манна 1,20—1,40 гр., панцак 50—60 гр., рыс 90—1,00, гарох белы 50 гр., фасоля белая 50—60 гр., цыбуля 70—80 гр., капуста квашаная 25—30 гр., сьвежая 30—35 гр.

Малако ня зьбіранае 35—40 гр. за літр., сьмятана 1,80—2,20 гр., сыр звычайны 1,40—2,00 за кілё, масла ня соленае 6,00—7,00 за кілё, соленае 5,00—6,00 за кілё, яйкі 18—23 гр. за штуку, мяса валовае 1,50 гр. за кілё, цялячае 1,25 гр., бараняе 1,50—1,70, саланіна сьвежая 2,40—3,00 за кілё, соленая 2,50—3,00, алей ільняны 2,20—2,40 за літр, цукар-пясок 1,30—1,35, у кусках 1,70—1,80, соль белая 30—35 гр. за кілё.

# Карэспандэнцыі.

### Душаць прыватную беларускую школу.

(В. Старынкі, Мядзёльскае гм., Пастаўск. п.).

У лютым 1925 году на падставе распараджэньня міністра асьветы з дня 25. VII. 24 г. і з дня 7.I. 25 г. ў в. Старынкі, Мядзёльскае гм., была адчынена пачаткавая прыватная беларуская школа. Школа гэта была пракантралявана ўладаю і функцыянавала да канца 1925 школьнага году.

У гэтым 1925—26 школьным годзе — 20 сьнежня ізноў пачаліся заняткі ў гэтай школе, увёўшы выкладаньне польскае мовы.

І мы думалі, што—вось мы адны шчасьліўцы з ліку вельмі нямногіх — маем сваю родную школу. Аж ня тут тое было: 28. I. 26 г. новы дунілавіцкі школьны інспэктар паперай № 50/26 загадаў зачыніць нашу школу, як „нелегальную“, а вучыцеля пацягнулі да адказнасьці.

Жыхары да глыбіны душы абураны гэтай несправядлівасьцяй, — гэтай „польскай толеранцыяй“.

**Сачэўка.**

### Асаблівы „вучыцель“.

(М. Язна, Дзісьненскага пав.).

Усіх запраўдных вучыцялёў-беларусаў або павысылалі ў каранную Польшчу, або загналі на вёску, дзе яны галадаюць. А да нас у Заходнюю Беларусь у паадчыняныя польскія школы панасаджвалі такіх „настаўнікаў“ з каранной Польшчы, якім там ня было месца, або горшы элемэнт нашай мясцовасьці—і яны нашых дзяцей „вучаць“.

Падаем тут адзін „факцік“, які аб многім гаворыць.

20 студзеня с. г. кіраўнік 2-ох-клясовае Язьненскае пачатковае школы, Гунін Аляксандар, набіў да сінякоў і марозіў некалькі гадзін дзіця—сына Антона Лонаўкі—Янку. — Спачатку „вучыцель“ пасадзіў гэтае дзіцё ў халоднай каморцы ў сенях, замкнуўшы ў шафе, дзе прасядзела яно 5 школьных лекцыяў і 4 перамены. Дзіця там крычэла, плакала і малілася, каб выпусьціў хоць на фізіялягічныя патрэбы. Але гэты „выхаваўца“—у адказ „psia krew chłopska morda, ja cię nie wypuszczę!—I nie napaskudzić!“ Але натура ўзяла свае, і дзіця ня вытрымала і „напаскудзіла“.

Тады гэты „начальнік“ выпусьціў дзіця з „вастрогу“ і зьбіў яго, увагнаўшы ў хваробу, і цяпер яно, пакрытае сінякамі, лечыцца ў фэльчара.

І за што ўсё гэта?

А вось за што!

Нехта падаў глыбоцкаму старасьце заяву на каманданта язьненскага пастарунку — Бэнбна, што ён разам з гэтым „вучыцелем“ робіць спэктаклі ў школе і ў буфэце прадае гарэлку без дазволу на гэта; за сьведку падалі бацьку гэтага дзіцяці, Антона Лонаўку, які ў рэфэрэнта 7.I.26 г. і паказаў усю праўду. — Дык за гэта—мала таго, што камандант Бэнбэн „разьлічыўся“ з бацькам „напаліцэйску“,—але яшчэ і дзіця панясло гэткую дзікую і нялюдзкую кару за бацькоўскі „грэх“!

Дык глядзеце людцы!—Ці было калі нешта падобнае на сьвеце?—Ці былі падобныя часы?

**С. А. Л.**

### Плёны польскае школы.

(В. Маразовічы, Кашэлеўскае гм. Наваградзк. п.).

Вёска ў нас вялікая, дзяцей многа—вучыць іх трэба. І вось мы, сяляне, некалькі гадоў прасілі для сваіх дзетак роднай беларускай школы, але—як усюды—не далі беларускай школы.

Пасьля некалькіх гадоў адчынілі ў нас польскую школу, каб польшчыць нашых дзяцей. Але „вучыцелька“ навет і польшчыць ня ўмее, бо толькі з дзяцьмі розныя кветкі ды ланцужкі выробляе. — Загадала яна вучням насіць з сабою ножніцы, але ў вёсцы маленькіх ножнаў няма, дык вучыцелька сказала, што і тыя, што стрыгуць авечкі,—добрыя. І дзеці іх насілі.

15 сьнежня 1925 г. 9-цёхгадовая дзяўчынка Марыля Максімчык, дачка беднай удавы Зосі Максімчык, узяла навет бяз ведама маткі вялікія ножны і пайшла ў школу, а за ею йшоў 11-цёх гадовы яе брат. На двары школьнага будынку дзяўчынка пасьлізнулася і ўпала, ды як раз на ножны і толькі крыкнуўшы: „я прабілася“ тут-жа скончылася. — Выбегла вучыцелька і вырвала з грудзей у дзяўчынкі ножны.

Пасьля паліцэйскага агляду дзяўчынку пахавалі.

Мы, сяляне, просім нашых паслоў перад міністрам пастарацца, каб падобных „лекцыяў“ у школах у нас ня было.

**Селянін.**

### Пэпэсы масковяць Палесьсе.

(Луненецкі пав.).

У нас страшэнна буяняць пэпэсаўцы (польскія сацыялісты). Разьяжджаюць яны па вёсках і то не адны, але з паліцэйскімі і шпікамі.—Зьбіраюць мітынгі і агітуюць, каб закладалі сяляне камітэты,—ну, а калі хто з сялян нешта не па іх духу скажа, то паліцыя з шпікамі гэтага „сьмяльчука“ пасадзяць „па назначэнію“. — У агітацыі сваёй пэпэсаўцы на мітынгах у вёсках абяцаюць, што тая вёска, у якой заложаць сяляне камітэт пэпэсаў, дастане **расейскую** школу. Дык бачыце, браткі: мы дамагаемся беларускай школы, а яны нам расейскую пруць!

Хоць сяляне ў нас цёмныя — газэтаў ніякіх не атрымоўваюць, дый нашы беларускія паслы штосьці не заглядаюць, — але бачаць яны гэтых ваўкоў у авечай скуры і ў камітэты ня йдуць.

**Луненецкі.**

### Цікава было-б нам даведацца.

(В. Вітава, Бельскага павету).

На першы дзень Трох Каралёў да нас (моладзі) на скокі зьявіліся два паліцыянты з Орленскага пастарунку, якія былі так п'яныя, што ледзь-ледзь трымаліся на нагах. Ня гледзячы на іх нецьвярозасьць, мы іх прынялі як найлепей: далі ім месца, папрасілі танцаваць і весяліцца, як у сябе дома. Здаволеныя нашым абходжаньнем яны прабавіліся аж да першых пеўняў.

Цяпер цікава было-б нам даведацца, як-бы гэтыя паліцыянты прынімалі нас у сябе на пастарунках? (куды папасьць нятрудна). Ці так, як мы іх—пачалавечы, ці мо'—пазьверску, як гэта было ў 1922 годзе. Тады, паклікаўшы нас і нашых бацькоў на дапрос,—амаль не пазабівалі. А што нашых старшых братоў, якіх палічылі за злосных „бандытаў“, дык няма мовы, што пазабівалі. Бо зараз-жа па засуджаньню „даразным“ судом на вечны вастрог, двое памёрлі, а адзін, які акружным судом засуджаны на 10 гадоў вастрогу, і цяпер яшчэ бядак сохне ў беластоцкіх мурах.

Чаму іх пануючая ўлада палічыла за гэтакіх вялікіх праступнікаў, — няведаем, бо для сялян нашай вёскі яны былі вельмі добрымі людзьмі.

**„Вітаўскі хлапец“.**

### Не падзяліліся.

(М. Ялоўка, Горадзенскага пав.).

Не цяпер ужо ведама, што добрых, маральных сьвяшчэньнікаў, якія-б маглі навучыць чаго добрага сваіх парахвіян,—польская ўлада выкідае заграніцу, не даючы ім „obywatelstwa“. — Нам-жа даюць папоў п'яніцаў, маральна нізка стоячых, якія толькі дэмаралізуюць народ.

Вось „прыкладзік“. — У Ялоўскай парахвіі ўжо даволі даўно сядзіць прысланы нам поп Кунцэвіч, які даволі ўжо ўславіўся рознымі штучкамі, маніфэстуючы свае „благонравное поведение“. Але ўвосені прыслалі нам яшчэ айца Мітрафана. І з ім наш „пастыр“ Кунцэвіч ня змог пагадзіцца.

Пасьля сьвятаў, паводле нашага звычаю, бацюшкі аб'яжджаюць вёскі і сьвеньцяць хаты. Ацец Мітрафан прыехаў у в. Шымкі выконваць гэты звычай.

Але ня ўсьпеў ён прайсьці некалькіх хат і ўвайшоў у хату М. Януця,—як уварваўся туды-ж п'яны сьв. Кунцэвіч і накінуўся на айца Мітрафана з няпрыстойнай лаянкай, адбіраючы ў яго крыж. А. Мітрафан не адразу аддаў крыж, і тут завязалася бойка.

На помач а. Мітрафану прышла гаспадыня хаты з дачкамі і адвалаклі яго, пакуль п'яны Кунцэвіч не адслужыў абраду. А Кунцэвіч,—адслужыўшы тут,—папёр у другія вёскі каб пагасіць кішанёвую крыўду, зробленую яму а. Мітрафанам.

Аба-ўсім гэтым прыхаждане падалі жалабу горадзенскаму япіскапу Аляксею. Але ці паможа? Магчыма, што яму і гэта так абойдзецца, як шмат што ўжо бяскарна праходзіла.

**Сірата.**

### Званы.

(Дзярэчынская парахвія, Слонімскага пав.).

Усім ведама, што царкоўныя званы былі вывезены ў Расею. І вось цяпер наш поп Ржэцкі „стараецца“ іх вярнуць.—У 1922 годзе сабраў ён 10 тысяч марак, а званоў няма; у сёлетнім годзе на трэйці дзень Каляд ізноў захацеў ён папрабаваць шчасьця. І з гэтай мэтай выслаў двох братчыкаў, Мікалая Драховіча і Рыгора Драховіча, каб з багацейшых бралі па 3 зл., а з бяднейшых —па 1 зл. Але людзі ня маюць і не даюць, — а калі спыталіся ў гэтых братчыкаў, дзе грошы, што давалі ў 1922 г., і дзе дошкі, цэгла, вапна і шкло, што атрымалі ад бюра адбудовы ў 1924 г. на рэмонт царквы, дык ім ня было чаго казаць, і пашлі ні з чым.

**Парахвіянін.**

## Беларусы у Літве.

З Прагі чэскай паведамляюць, „Bieł. Krynica“, што ў Коўне ў хуткім часе мае быць заснаваны Інстытут Беларускай Культуры, а ў Унівэрсытэце мае быць аткрыта катэдра беларусазнаўства.

Думку гэтую трэба шчыра прывітаць. На жаль толькі, мы ня бачым тамака адпаведных беларускіх сіл дзеля такое важнае і адказнае працы...

## Паштовая скрынка.

**Грам. Сьвістуну.**—Вершы Вашы атрымалі.

**Грам. Сычу.**—Вершы Вашы, як перад Калядамі, так і цяпер атрымалі. Наагул за вершы ня плацім.

**В. С—му ў Даўгінаве.** — Артыкул аб беларускіх словах у жыдоўскай мове атрымалі. Дзякуем і скарыстаем.

**Падпісчыку І. Г—ко.** — Ліст атрымалі. Газэту высылаем.

**Атрымана.**

Ад:—Марыі Юшко, Аляксандра Мірончыка, Антона Арцюха, Базыля Шашка, Аляксандра Грэся, Яна Тэадаровіча, Язэпа Грыгарчука, Абрама Сьцепанюка, Сымона Сяляўкі, Гальяша Чарняўскага, Апанаса Вераб'я, Барыса Гэройкі, Яна Шураева, Т. Бурачука, Б. Кучыца, Сьцяпана Праневіча, Яна Брыля, Міхала Герасімчыка, Аляксандра Стрэжа, Аўгеньні Сухой, Н. Цытовіча, Аляксанрда Кадушкевіча, Міхала Лушчыка, Яна Белага, Тафіля Каласоўскага, Міхала Галенцы, І. Кучука, Антона Касатага, Яна Дэшкоўскага, Ігната Дзяменіка, Мікалая Озябло, Мікалая Харашэвіча, Пятра Качана, Уладзіміра Крэня, Паўла Ваўкавыцкага, Антона Нікіцюка, Антона Кандратовіча, Уладзіміра Каляды, Яна Цімаховіча, Яна Дразда — **па 2 злотых.**

Ад:—Міхала Кабака, А. Пяткевіча, Мікіты Астаньчука, Юльяна Стрыхара, Яна Сідаровіча, Канст. Сецевінца, Яна Сыраквата, Вінц. Падробы, М. Сасны, Т. Будніка, Ігн. Ромука—**па 4 злотых.**

Ад: — Яна Мажэйкі, Леаніда Бялькевіча, Юрыя Сабалеўскага і Аляксандра Марчыка — **па 5 злотых.**

Ад: — Ганны Бародзінай, Аляксея Патаповіча, Кал. Буфэта ў Стоўпцах, Шлотскага, Антона Цупрыка **па 6 злотых.**

Ад:—Анатоля Красоўскага і Аляксандра Завацкага—**па 7 злотых.**

Ад:—А. Талуца і Уладзіміра Царука—**па 8 зл.**

Ад: — Ігната Урбановіча і Т. Паўлюксвіча — **па 10 злотых,**

Ад:—Веры Булыгі і Яна Трашчоткі—па 3 зл. 30 грошы, С. Пагуды—2 зл. 50 гр., П. Пяцюкевіча — 3 даляры, кс. Стэповіча—16 зл., М. Карповіча — 6 зл. 50 гр., С. Казокі—15 зл. 25 гр., Гальяша Апалькі — 7 зл. 50 гр., Уладзім. Каліноўскага—6 рублёў, Аляксандра Кішкеля—3 зл., Уладысл. Серкавіча—3 зл. 90 гр.

„Беларуская Ніва“, адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны сьвядомы беларус павінен чытаць, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць сваей газэце.



Рэдактар-Выдавец: Ян Марцінеўскі. Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.